ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№1 (82) студзень 2018 год

CATHOLICNEWS.BY

# "Зорка Бэтлеему" ў 16-ты раз прайшла ў Мёрах

Стар. 4

## Увага! Працягваецца падпіска на І паўгоддзе 2018 года!

**Кошт падпіскі:**
на месяц – **96 капеек**,
на 3 месяцы – **2 рублі 88 капеек**,
на 5 месяцаў – **4 рублі 80 капеек**.
Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Падпішыся сам і падпішы сваіх сяброў!**

## Кольцо рыбака – это действительно кольцо святого Петра?



Стар. 5

## Ксёндз Вячаслаў Адамовіч: "Кожную вольную хвіліну прысвячаю таму, што люблю..."



Стар. 8

# 2017 год Папы Францішка: візіты, сустрэчы, дакументы



**Мінулы год быў насычаны падзеямі з удзелам Папы Францішка. Святы Айцец правёў 43 агульныя аўдыенцыі, 59 разоў сустракаўся з вернікамі на малітве Анёл Панскі, здзейсніў чатыры Апостальскія падарожжы, падчас якіх наведаў Егіпет, партугальскі санктуарый у Фаціме, Калумбію, М'янму і Бангладэш; пяць пастырскіх візітаў у італьянскія гарады – у Мілан, Капры, Мірандолу, Генную, Бодзала, Барбіяна, Чэзену і Балонню, а таксама ў чатыры парафіі Рымскай дыяцэзіі.**

У 2017 годзе Пантыфік выдаў чатыры Апостальскія лісты ў форме "motu proprio": аб перадачы спраў, якія датычаць санктуарыяў, у кампетэнцыю Папскай рады па новай евангелізацыі; аб прызнанні "ахвяравання жыццём" у якасці падставы для распачацця беатыфікацыйнага і кананізацыйнага працэсаў побач з ужо існымі мучаніцтвам і гераічнасцю цнотаў; аб перадачы асаблівай адказнасці мясцовым епіскапатам за пераклад літургічных кніг; аб рэарганізацыі Папскага інстытута Яна Паўла ІІ па даследаваннях сужэнства і сям'і.

Мінулы год Пантыфік пачаў сустрэчай з жыхарамі рэгіёнаў цэнтральнай часткі Італіі, якія пацярпелі ад землятрусаў летам і восенню 2016 года. 14 студзеня ён прыняў на аўдыенцыі Прэзідэнта Палесціны Махмуда Абаса, каторы затым удзельнічаў у адкрыцці амбасады гэтай дзяржавы пры Апостальскай Сталіцы.

У лютым Папа наведаў рымскі ўніверсітэт "Roma Tre". Гэта быў першы візіт Францішка ў італьянскую дзяржаўную навучальную ўстанову. Затым, 26 лютага, ён наведаў рымскую англіканскую царкву Усіх Святых, стаўшы першым Пантыфікам, які пераступіў парог гэтай святыні.

У сакавіку Папа прыняў у Ватыкане 27 кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў Еўрасаюза з нагоды 60-годдзя падпісання Рымскай дамовы, якая дала пачатак інтэграцыі на кантыненце. Пасля пасхальных святаў, што сёлета прайшлі ў красавіку, Пантыфік маліўся ў рымскім Санктуарыі Навамучанікаў у касцёле св. Барталамея.

У маі ў Ватыкане прайшло першае пленарнае пасяджэнне Сакратарыяту па камунікацыі. Удзельнікаў Папа заклікаў да глыбокіх пераменаў у сістэме камунікацыі Апостальскай Сталіцы. 24 мая ён прыняў на аўдыенцыі Прэзідэнта ЗША Дональда Трампа, з якім абмеркаваў сітуацыю мігрантаў і крызіс на Блізкім Усходзе.

У чэрвені Францішак сустракаўся з чальцамі руху "Каталіцкае харызматычнае абнаўленне" з нагоды яго 50-годдзя, з Канцлерам Германіі Ангелай Меркель, з Прэзідэнтам Італіі Сэрджа Матарэлам. Напрыканцы месяца ён узначаліў кансісторый па ўзвядзенні ў кардынальскую годнасць пяці іерархаў – прадстаўнікоў Іспаніі, Лаоса, Малі, Швецыі і Сальвадора.

Пасля летняга адпачынку, у кастрычніку, Францішак прымаў удзел у святкаванні 25-годдзя Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, падчас якога падкрэсліў важнасць пастаяннага паглыблення разумення Божага слова.

У лістападзе, які традыцыйна прысвечаны ўспаміну памерлых вернікаў, Францішак наведаў вайсковыя могілкі ў італьянскім Неттуна, дзе скіраваў заклік да міру ў свеце. Прымаючы на аўдыенцыі ўдзельнікаў міжнароднай канферэнцыі па ядзерным раззбраенні, якая прайшла 10 лістапада ў Ватыкане, Папа асудзіў гэты від зброі, які, паводле яго слоў, служыць толькі ўмацаванню страху і ўзаемнага недаверу на планеце.

11 лістапада Святы Айцец прыняў на аўдыенцыі арцыбіскупа Габара Пінтэра, Апостальскага нунцыя ў Беларусі, з якім, між іншым, размаўляў пра перспектывы свайго візіту ў нашу краіну. "Магу пацвердзіць, што гаворка ішла таксама і пра гэта. Мы шмат працуем, каб візіт адбыўся. Хачу папрасіць усіх маліцца ў гэтай інтэнцыі, бо сітуацыя яшчэ не зусім спрыяльная, але мы спадзяёмся, што хутка гэты момант наступіць. Усе гэтага жадаюць, мы ўсе гэтага хочам", – сказаў ватыканскі дыпламат пасля сустрэчы з Пантыфікам.

*Ватыканскае радыё*

## М'янма: першае за 50 гадоў публічнае святкаванне Божага Нараджэння



**Хрысціянская супольнасць М'янмы ўпершыню за апошнія 50 гадоў публічна адсвяткавала свята Божага Нараджэння на вуліцах горада.**

Як паведамляе інфармацыйнае агенцтва "Fides", у недалёкім мінулым святкаванні абмяжоўваліся сценамі касцёлаў і дамоў.

У гэтым годзе, атрымаўшы дазвол ад уладаў, у былой сталіцы краіны – Янгоне – ад 23-га да 25-га снежня на вуліцах здзяйсняліся набажэнствы, праводзіліся кірмашы і працэсіі.

Святочны фестываль пачаўся 23 снежня. Дапаможны біскуп Янгона выказаў радасць мясцовых хрысціян ад магчымасці правесці першы калядны фестываль і заахвоціў грамадзян "усімі магчымымі спосабамі клапаціцца пра мір і добрае развіццё краіны". Як патлумачылі прадстаўнікі ўлады, дазвол быў прадастаўлены з "выразным жаданнем ушанаваць візіт Папы Францішка ў М'янму, які адбыўся ў лістападзе 2017 года, і каб засведчыць салідарнасць з хрысціянамі М'янмы і ўсяго свету".

Старшыня рэгіянальнага ўрада паабяцаў, што правядзенне каляднага фестывалю будзе падтрымана таксама і ў наступныя гады. Паводле перапісу, праведзенага ў 2014 годзе, сярод амаль 52 мільёнаў насельніцтва краіны хрысціяне ўсіх канфесій складаюць 3 мільёны.

Удзельнікі святочных мерапрыемстваў звяртаюць увагу на тое, што гэта першая пасля візіту Папы вялікая экуменічная падзея ў гэтай краіне, якая таксама стала нагодай для сустрэчы паміж бірманскай хрысціянскай і будыскай суполкамі. На думку каталіцкага святара а. Джоржа, такія падзеі з'яўляюцца знакам росту рэлігійнай свабоды ў М'янме.

Радасць з хрысціянамі раздзялілі нямала будыстаў. Адзін з іх распавёў карэспандэнту "Fides", што прымаў удзел у фестывалі разам з жонкай. Паводле яго слоў, ён убачыў, што "Божае Нараджэнне – гэта свята, якое мае каштоўнасць для ўсіх людзей, а не толькі для хрысціян".

*Ватыканскае радыё*

## У Ватыкане апублікавалі праграму папскіх мерапрыемстваў

**Папа Францішак працягне традыцыю і правядзе велікапосныя рэкалекцыі ў Арычы. Пра гэта стала вядома з праграмы мерапрыемстваў з удзелам Папы на студзень-люты, апублікаванай 8 студзеня ў Ватыкане Службай папскіх літургічных цэлебрацый.**

У свята Навяртання св. Паўла, якое адзначаецца ў Касцёле 25 студзеня, на заканчэнне Тыдня малітвы аб еднасці хрысціян, Пантыфік узначаліць урачыстыя Нешпары ў рымскай базіліцы св. Паўла за Мурамі. Па традыцыі ў гэтым набажэнстве возьмуць удзел прадстаўнікі розных хрысціянскіх канфесій.

У нядзелю, 28 студзеня, Святы Айцец узначаліць св. Імшу ў рымскай базіліцы Санта-Марыя-Маджорэ з нагоды свята Перанясення іконы Маці Божай "Salus Populi Romani".

2 лютага вечарам, у свята Ахвяравання Пана і XXII Сусветны дзень кансэкраванага жыцця, у базіліцы св. Пятра Францішак сустрэнецца на Эўхарыстыі з прадстаўнікамі манаскіх супольнасцяў.

14 лютага, у Папяльцовую сераду, святы Айцец адправіцца на рымскі Авенцін. Ён пройдзе ў пакутнай працэсіі ад бэнэдыктынскага касцёла св. Анзэльма да дамініканскай базілікі св. Сабіны, дзе ўзначаліць св. Імшу з абрадам пасыпання галоў попелам.

У нядзелю, 18 лютага, у Арычы, недалёка ад Рыма, распачнуцца велікапосныя рэкалекцыі для Святога Айца і супрацоўнікаў Рымскай курыі. Яны працягнуцца да пятніцы, 23 лютага. На гэты час будуць адменены ўсе папскія аўдыенцыі.

*Ватыканскае радыё*

# Как встречать священника дома во время коляды?




**Традиционно в начале календарного года (после торжества Богоявления) у католиков начинается коляда – посещение приходским священником места жительства верующих.**

Во время пастырского визита священники освящают жилища прихожан, вместе молятся в интенциях семьи, угощаются за общим столом, чтобы поближе познакомиться, рассказать о своих проблемах.

На коляду нужно заранее записаться. В назначенный день и время хозяин дома встречает священника у двери, приглашает его в комнату. При этом можно спеть колядку. Желательно, чтобы дома были все члены семьи. Здороваясь словами «Мир этому дому», священник хочет, чтобы в этом доме постоянно присутствовал Христос, который своим появлением на свет принес людям мир. А на христианское приветствие «Слава Христу!» нужно ответить «Во веки веков. Аминь» или просто «Слава навеки!».

Во время визита священника необходимо выключить телевизор, радио. Пастырское посещение начинается с обряда благословения семьи вместе с общей молитвой, также происходит благословение всей семьи и дома с окроплением всех присутствующих освященной водой.

К пастырскому визиту необходимо подготовить пять главных вещей: накрытый белой скатертью стол, крест, зажженную свечу, Священное Писание, освященную воду.

Обычно во время коляды принято угощать священника, если у него есть время. Это может быть как хороший обед, так и обычный чай с печеньем – здесь нет определенных правил. Время угощения предназначено для откровенного разговора о ситуации в семье, так как священник приходит в дом верующего с целью не только знакомства, но и конкретной помощи.

Часто возникает вопрос: сколько дать денег священнику за пастырское посещение? Ответ прост: кто сколько может. Никакой таксы за коляду, как и за любую другую услугу, священник Католической церкви никогда не называет. Это значит, что если в семье сейчас тяжелое финансовое положение и она не может вообще сложить для священника пожертвования, ничего страшного в этом нет. И отсутствие денег ни в коем случае не может быть причиной тому, чтобы хозяин не пригласил священника на коляду в свой дом. При этом надо помнить, что все пожертвования предназначаются на нужды прихода (отопление, ремонт, топливо), а не священнику лично.

*katolik.life*

# Почему евангелист Иоанн так тщательно описал количество пойманных в сети рыб – 153?

**Почему евангелист Иоанн так тщательно описал количество пойманных в сети рыб – 153? Что может это значить?**



Этот вопрос возникал у верующих всех эпох: почему евангелист Иоанн так заботится о точном указании числа пойманных рыб? Ответить на него пытался еще святой Иероним, прибегая к зоологическим объяснениям.

Хотя разные древние авторы указывали разные цифры, он ссылался на 153 вида рыб, перечисленных в трактатах по зоологии той эпохи. Таким образом, указание этого числа должно было символизировать совокупность человечества, которому призваны возвещать Христа «ловцы человеков», то есть ученики Христовы.

Святой Августин прибегал к более изысканному, математическому толкованию: 153 – это треугольное число, в основании которого лежит 17, то есть 10 плюс 7, два символических библейских числа, обозначающих множество и всю совокупность. Иными словами, 153 символизирует полноту Церкви. После такой интерпретации Блаженного Августина это число толковали примерно в том же символическом ключе: например, 100 – это язычники, 50 – евреи, а 3 – Пресвятая Троица (толкование святого Кирилла Александрийского). Или 153 – это сумма числового значения букв, составляющих еврейское слово «Церковь любви» (так предполагал наш современник экзегет Хайнц Крузе). Джон Эмертон объяснял это число на основе отрывка из Книги пророка Иезекииля (47,10): «И будут стоять подле него рыболовы от Ен-Гадди до Эглаима, будут закидывать сети. Рыба будет в своем виде и, как в большом море, рыбы будет весьма много». Эмертон обнаружил, что в сумме числовые значения этих двух географических названий как раз составляют 153.

Среди бесчисленных толкований были и самые фантастические. Так, средневековый автор Руперт из Дойца делил 153 следующим образом: 100 – это замужние женщины, 50 – вдовы и 3 – девы.

Кардинал Джанфранко Равази, президент Папского совета по культуре, разделяет убеждение тех, кто в этом числе видит просто желание евангелиста показать, что его свидетельство является прямым, конкретным, что он видел все своими глазами. Это толкование подчеркивает историчность Евангелия Иисуса Христа. Разумеется, нельзя отрицать, что события, относящиеся к Господу, несут в себе глубокое трансцендентное измерение, выходящее за рамки непосредственного значения.

Тем не менее евангельское послание основано на историческом событии, которое было выверено и засвидетельствовано очевидцами. Точно так же евангелист Иоанн поступил и в описании крови и воды, истекших из бока распятого Христа (Ин 19,35), а также описывая пелены и плат, оставленные в гробнице воскресшим Христом (20,7). Число 153, несомненно, символизирует и обильные плоды миссии, осуществляемой учениками, «ловцами человеков».

*Радио Ватикана*

# “Зорка Бэтлеему” ў 16-ты раз прайшла ў Мёрах

**Такую назву мае конкурс каляднай песні, які традыцыйна ладзіць Мёрская парафія. У гэтым годзе мерапрыемства адбылося ў сераду, 3 студзеня, у Мёрскім раённым Доме культуры.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч,** *фота*

Арганізатарам штогадовага конкурсу з'яўляецца ксёндз Кшыштаф Мянкіна, мясцовы пробашч. Ужо ад самай раніцы ў Мёры сталі прыбываць маладыя таленты з розных куткоў Віцебскай дыяцэзіі. Усяго сёлета ў конкурсе прынялі ўдзел прадстаўнікі дванаццаці парафій, а калі ўлічыць, што ў Паставах ужо дзве каталіцкія парафіі, то можна сказаць, што ў Мёры завіталі трынаццаць прадстаўнікоў.

Ганаровымі гасцямі фестывалю сталі біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч і канцлер дыяцэзіі ксёндз Віктар Місевіч. Ксёндз Віктар у гэтым годзе ўзначаліў журы, у склад якога ўвайшлі таксама выкладчык музыкі Галіна Грабоўская і мастачка Вольга Чарняўская. Для святара гэта быў дэбют на пасадзе кіраўніка журы, але ён годна з гэтым справіўся.

Самай эмацыйнай часткай праграмы стала ўручэнне дыпломаў і аб'яўленне вынікаў. Журы нікога не пакінула без падарункаў і прызоў. А як жа інакш! Гэта дзеці, якія могуць і пакрыўдзіцца, калі ім не ўдзяліць належнай увагі. Таму былі вызначаныя тры прызы глядацкіх сімпатый, тры трэція месцы, тры другія і тры першыя.

Прызы глядацкіх сімпатый атрымалі Крысціна Багушэвіч і Андрэй Малатоўнік з Варапаева, Маша Шаура з Паставаў і Дзіяна Гуйдо з Наваполацка.

Трэцяе месцы дасталося гурту віяланчэлістаў з Бешанковічаў, фальклорнаму гурту з Мёраў і Паліне Сіняўскай з Глыбокага.

Другое месца падзялілі Сафія Пацянкоўская з Верхнядзвінска, гурт “Ex anima” з Браслава і Мікіта Рабухін з Паставаў.

А найлепшымі, паводле меркавання журы, сталі гурт “Музыкі Хрыста” з Шаркаўшчыны, Злата Ярашэвіч з Лучая і Анастасія Пазняк і Антон Анецька з Мёраў. Пераможцам уручылі гітары.

Напрыканцы імпрэзы ад дабрачыннага каталіцкага таварыства “Карытас” усе ўдзельнікі атрымалі салодкія падарункі.

А Мёры развіталіся з канкурсантамі і гасцямі свята да наступнага года.


Біскуп Алег Буткевіч уручае ўзнагароду ўдзельніцы з Дзеркаўшчыны


Прадстаўніца парафіі з Бешанковічаў



Выступаюць гаспадары – прадстаўнікі Мёрскай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і Святога Язафата Кунцэвіча

# Кольцо рыбака – это действительно кольцо святого Петра?



**В детстве, я помню, отец говорил мне, что Кольцо рыбака, которое носит Римский Папа, называется так, потому что его носил святой Петр. Действительно ли кольцо, которое носит Папа Римский, принадлежало апостолу Петру, или каждому следующему Папе дается новое кольцо?**

**о. Эдвард МакНамара**, *профессор и декан факультета теологии университета ReginaApostolorum*

*Перевод рускатолик.рф*

По утверждению Рима, кроме нескольких костей апостола Петра, до наших дней сохранились только несколько вещей, которые могли принадлежать первому Папе Римскому. Например, в апсиде Собора Святого Петра сохранился стул св. Петра, который является частью скульптурной композиции Кафедры Святого Петра, созданной Джованни Бернини. Кроме этого, в церкви Сан-Пьетро-ин-Винколи хранятся оковы, которыми он был скован во время заключения в тюрьме. А подлинное здание Мамертинской тюрьмы, в которой был заточен св. Петр, сейчас является церковью. Часть стола, за которым св. Петр, вероятно, служил Евхаристию, была найдена в боковом притворе церкви св. Пуденцианы, одной из самых древних христианских церквей в Риме (построена на месте домашней церкви между 140 и 155 гг. н.э.). Остальная часть стола находится в алтаре св. Иоанна Крестителя в соборе Святого Петра. Тем не менее, нет ни одного упоминания о кольце св. Петра.

Ношение папского кольца, скорее всего, связано с традицией ношения епископских колец. Примерно с 610 г. становится известно, что епископы носили особенные кольца. Вместе с тем сообщалось и о епископском посохе как о символе служения, который олицетворял мистическое единение с его епархией. С течением времени церемония надевания кольца для новопризванных епископов стала частью посвящения в сан епископа.

Возможно, из-за своей обручальной символики и по литургическим причинам носить такое кольцо принято на безымянном пальце. Так как кольца часто надевали поверх епископских перчаток, они были довольно большими или снабжались специальным механизмом, который позволял регулировать их размер.

Раньше кольцо епископа было довольно большим, выполненным из золота и украшенным аметистом. Сейчас эти кольца выглядят намного проще, часто на них можно найти гравировки с христианскими символами. Некоторые епископы предпочитают носить одно простое кольцо, а другие хранят более изысканные кольца для торжественных богослужений.

Недавно назначенные кардиналы тоже получают кольцо от Папы: он сам решает, как оно будет выглядеть.

Кольцо Папы, следовательно, по своей сути – это епископское кольцо с символами, которые отражают особенности папского служения. На кольце обычно изображается святой Петр, забросивший рыболовные сети, и следует надпись «Кольцо рыбака» с выбранным понтификом именем.

Для каждого Папы создается новое кольцо. Примерно с 1250-ых гг. кольцо использовалось для запечатывания личной документации Папы, а с 1400-ых гг. – для его публичной корреспонденции. Такая практика прекратилась в 1842 г., причиной этому стала традиция уничтожать Кольцо рыбака после смерти Папы во избежание злоупотреблений. Традиция эта до сих пор существует, однако теперь кольца не столь изысканны: чаще всего на них изображается только крест.

Каждый Папа сам решает, когда ему следует надеть кольцо. Такое кольцо обычно не носят ежедневно. Более того, Папа Пий XII надел Кольцо рыбака только однажды, во время Папской коронации, что стало примером для его последователей, среди которых св. Иоанн Павел II. Эти Папы либо носили обычное кольцо своего предшественника, либо продолжали надевать то кольцо, которое они использовали, будучи епископами.

Папа Римский Бенедикт XVI предпочетал носить Кольцо рыбака ежедневно. Папа Римский Франциск вернулся к ранней традиции ношения личного кольца каждый день, но во время некоторых литургических богослужений он надевает другое кольцо. Эскиз Кольца рыбака, которое он носит, был первоначально создан для Папы Павла VI, но до этого времени кольцо не было выполнено в металле.



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова записаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Дыяцэзіяльны конкурс батлеек

**У чацвер, 4 студзеня, у Віцебску адбыўся дыяцэзіяльны конкурс батлееек, які праходзіць у межах Дзён хрысціянскай культуры Віцебскай дыяцэзіі.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

У гэтым годзе ў конкурсе прынялі ўдзел дзеці і моладзь з адзінаццаці парафій.

На пачатку мерапрыемства канцлер курыі Віцебскай дыяцэзіі ксёндз Віктар Місевіч, які быў адказным за яго правядзенне, а таксама выконваў ролю вядоўцы, прадставіў журы конкурсу, каторае складалася сёлета з чатырох чалавек. Гэта Таццяна Дарафеева, арганістка парафіі Святога Духа ў Віцебску, Алесь Замкоўскі, загадчык літаратурна-драматычнай часткі тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску, Крысціна Бондарава, кіраўнік клуба гістарычнай рэканструкцыі "Паўночная Вежа", а таксама мадэратар курыі Віцебскай дыяцэзіі айцец Кляменцій Верт SJ.

На пачатку конкурса да ўсіх прысутных звярнуўся біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Ён прывітаў гасцей, пажадаў ім добрага выступу, пасля чаго ўсе разам з іерархам ўзнеслі свае малітвы да Езуса Хрыста і Дзевы Марыі.

Потым распачаўся ўласна конкурс. Сёлета ў ім прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх пяці парафій Віцебска, а таксама дзеці з Докшыц, Наваполацка, Параф'янава, Відзаў, Дуброўна, Браслава.

Хаця сюжэт Божага Нараджэння адзін для ўсіх вернікаў, кожная каманда паказала яго пасвойму адметна. Хтосьці рабіў дзеі падобна да таго, як гэта адбывалася дзве тысячы гадоў таму, хтосьці адаптаваў тэму да сучаснасці. У кожнай каманды атрымлівалася па-свойму арыгінальна, таму журы было няпроста ацаніць выступ прадстаўнікоў розных парафіі.

Усе групы ўдзельнікаў атрымалі дыплом у нейкай адметнай намінацыі за сваю арыгінальнасць і артыстызм. Трэцяе месца падзялілі дзеці з Наваполацка і катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску, другое – у прадстаўнікоў Браслава, а першае месца журы прысудзіла артыстам з Докшыц і парафіі Святога Антонія ў Віцебску.

Дыпломы ўручылі таксама тым юным артыстам, чые выступы найбольш уразілі журы конкурса. Ну і, вядома, усе без выключэння атрымалі салодкія падарункі ад дыяцэзіяльнага "Карытас" з рук кіраўніка згаданага дабрачыннага таварыства ксяндза Андрэя Аніскевіча і біскупа Алега Буткевіча.

А напрыканцы іерарх благаславіў усіх удзельнікаў і запрасіў іх на такую ж сустрэчу ў наступным, 2019 годзе.


1


2


3

# прайшоў у Віцебску




**На здымках:**
1 – дзеці з Віцебскай парафіі Святога Антонія ў беларускіх нацыянальных строях выглядалі проста цудоўна;
2 – фрагмент выступу прадстаўнікоў Докшыцкай парафіі: злыя духі спрабуюць спакусіць хлопчыка з добрай каталіцкай сям'і;
3 – усе ўдзельнікі конкурса сабраліся ў катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага, каб атрымаць прызы і падарункі з рук біскупа Алега;
4 – на сцэне дзеці з парафіі ў Наваполацку;
5 – аўтарытэтнае журы;
6 – дыплом за захаванне нацыянальных традыцый атрымалі прадстаўнікі з усходняй парафіі ў Дуброўне;
7 – «Вослік» і «Папугай» з парафіі Святога Антонія ў Віцебску – юныя артысты, чыя ролевая гульня найбольш уразіла журы конкурса;
8 – самыя маленькія ўдзельнікі імпрэзы з самай маладой парафіі Святога Уладзіслава ў Віцебску.












# Ксёндз Вячаслаў Адамовіч: “Кожную вольную хвіліну прысвячаю таму, што люблю...”



**У кожнага чалавека ёсць сваё хобі, ёсць яно і ў святароў. Хтосьці збірае старыя кніжкі, хтосьці займаецца нейкім відам спорту, нехта ходзіць на паляванне... Пачуўшы, што ксёндз Вячаслаў Адамовіч сур’ёзна захапляецца стэндавым мадэлізмам, мы разам з сябрам-журналістам з Мінска Змітром Бартосікам завіталі да яго ў Дзісну – самы маленькі горад Беларусі, каб паразмаўляць пра любімы занятак ксяндза. І не толькі.**

**Зміцер Лупач**

**– Чаму менавіта танкі? Гэта ж машына, створаная для забойства?**

– Сапраўда, гэта так. Але, з іншага боку, гэта таксама машына, якая створаная для абароны. Тут як кій, што мае два канцы. Я ж не збіраю сапраўдны танк, які будзе забіваць людзей. Гэта проста мадэлізм. А ў ім пераважае ваенная тэхніка, гэта найбольш папулярны кірунак у мадэлізме. Можа таму, што для вайсковай тэхнікі выкарыстоўваюцца найлепшыя навуковыя распрацоўкі. Ёсць таксама і грамадзянскія аўтамабілі, і гоначныя, і матацыклы людзі збіраюць, і караблі. Ветразевыя, напрыклад. Але каб збіраць гэтыя прыгожыя парусніКі, трэба мець шмат досведу і адпаведныя рукі. Бо патрэбны вялікі талент, каб сабраць сапраўдную мадэль карабля.

**– Што Вам дае такое захапленне?**

– Гэтае хобі вельмі прыемнае для чалавека, бо вучыць нейкаму супакою. Адпачываеш ад іншых спраў і займаешся канкрэтна гэтым. Калі ты сядаеш і гадзінамі прыклейваеш нейкія маленькія дэталі, то напачатку гэта раз’юшвае, псуе нервы. Але пазней чалавек супакойваецца, увахodзіць у стан своеасаблівай медытацыі і пачынае адпачываць, расслабляцца. І яму робіцца прыемна гэтым займацца.

*Пра свае мадэлі ксёндз Вячаслаў можа распавядаць вельмі натхнёна. Адразу відаць, што ён гэты занятак любіць, і ў падобнай тэме мае ўжо добры досвед.*

– Вось танк Т-34, адзін з самых легендарных. Яго мы маем амаль у кожным горадзе. Адзін з такіх танкаў можна ўбачыць у фільме “Чорная бяроза”, які здымаўся тут, у Дзісне. Зараз ён стаіць у Полацку на кальцы. Хаця школьнікам усім распавядаюць, што гэта менавіта першы танк, які ўварваўся ў Полацк, каб яго вызваліць. Але згаданая машына была ў Дзісне, нават каля нашай святыні праязджала.

Ёсць мадэль кітайскага вытворцы – танк Т-72. Ён будзе пазней зроблены ў такім камуфляжы нашага беларускага войска.





Усе гэтыя мадэлі ў маштабе 1:35. Гэта значыць, у 35 разоў меншыя за арыгінал. Вось тут у нас нямецкі каралеўскі “Тыгр”, калі да яго прыглядзецца, заўважым, што ён увесь у гразі, у нейкім пяску, як быццам толькі што вярнуўся з бою. Гэта цяпер такі модны кірунак у мадэлізме, каб рабіць менавіта падобныя мадэлі, крыху брудныя, якія выглядаюць не так, як на парадзе.

**– Як ставяцца знаёмыя да такога Вашага захаплення?**

– Як я толькі пачаў гэтым займацца, адзін з маіх сяброў сказаў, маўляў, здзіцянеў чалавек. Але сабраць такую мадэль, добра яе пафарбаваць, аздобіць адпаведнымі эфектамі – гэта не кожнае дзіця зробіць, асабліва без дапамогі дарослых. Плюс такое хобі не таннае.

Кожны мае свой занятак. Хтосьці ходзіць на рыбу, хтосьці на паляванне, хтосьці яшчэ чымсьці займаецца, а нехта захапляецца мадэлізмам. У кожнага сваё хобі. Кожны свой час прысвячае таму, што любіць.

Я, напрыклад, не разумею тых, хто на рыбалку ходзіць. Як можна ўвесь дзень выседзець на холадзе, і, вылупіўшы вочы, на паплавок глядзець?! І яшчэ не злавіць нічога... Але ж чалавеку гэта падабаецца, ён так адпачывае. Тое ж іншыя могуць сказаць і пра маё хобі: сядзіць чалавек, клеіць нейкія пластмасавыя дэталькі, і для чаго гэта ён робіць?

**– Ці ёсць такія арганізацыі, клубы, дзе Вы сустракаецеся, абменьваецеся вопытам?**

– Сапраўды, мы збіраемся, тэлефануем адно аднаму, у Інтэрнэце перапісваемся. Ёсць таксама клубы стэндавага мадэлізму, але найбліжэйшы з іх, на жаль, знаходзіцца ў Віцебску. У Мінску ў БНТУ два разы на год выставы праводзяцца. Нядаўняя была ў кастрычніку. На іх прыязджаюць людзі і з-за заходняй мяжы і з Расіі. На такіх выставах ёсць што пагладзець і чаму павучыцца. І прыцягваюць яны, гэтыя выставы, якраз не дзяцей. Там заўсёды больш дарослых.

У Полацку ёсць некалькі хлопцаў, што займаюцца мадэлізмам, мы таксама сустракаемся, абменьваемся вопытам. Вось так у нас віруе жыццё і ідзе наперад.

*Спыталі мы ў ксяндза Вячаслава і пра тое, калі ён адчуў сваё пакліканне да святарства. На што той адказаў: “Позва прыйшла”. Але дэталі той позвы раскрыць ксёндз не захацеў.*

*Некалі Дзісна была павятовым цэнтрам, мела значны ўплыў на жыццё ў наваколлі.*

**– А як зараз жывецца ў Дзісне:**

– Тут, у Дзісне, была ў свой час праца, заводы былі, прадпрыемствы розныя і людзі цягнуліся да працы. Дзісна ва ўсе часы была гандлёвым горадам, чаго зараз не скажаш... Летам турысты прыязджаюць, шмат іх бывае. І з Польшчы, і з Расіі, з Ізраіля, нават з Англіі. У мяне па горадзе ходзяць, руінамі касцёла цікавяцца. Улічваючы, што Дзісна стаіць крыху ўбаку ад шашы, прыязджаюць адмыслова, каб горад паглядзець. А зімой тут ціха, таму вольнага часу хапае.

**– Вернікаў шмат у парафіі?**

– Ёсць некалькі дзясяткаў. У асноўным людзі старэйшага веку. А моладзь з Дзісны з’язджае. Вось прыходзяць дзеці, хлопцы-міністранты прыслугоўваюць на Імшы, потым заканчваюць школу, едуць вучыцца, нават у той самы Полацк... І вось пакуль вучацца, на выходных яны ёсць у касцёле, потым дзесьці размеркавалі – і ўсё, іх няма.

***

Храм у Дзісне пацярпеў і ў савецка-польскую вайну 1920 года, моцна пашкодзілі яго і ў апошнюю вайну. Але найбольш пацярпеў ён ужо пасля вайны, у гады ваяўнічага атэізму, калі быў проста падарваны... Гадоў дзесяць таму пачаліся працы па яго аднаўленні. Але ўсё ўпіраецца ў сродкі, прычым сродкі вельмі вялікія.

Напрыканцы хочацца пажадаць ксяндзу Вячаславу поспехаў у яго захапленні. Спадзяёмся, што касцёл у Дзісне таксама будзе адноўлены.

# Беларусь у "святых" гербах: Гродна

**Нездарма Уладзімір Караткевіч месцам разгортвання асноўных падзей аднаго з найбольш вядомых сваіх твораў – рамана "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" – абраў менавіта гэты горад. Хрыстос у Беларусі мог "прызямліцца" толькі ў Гародні.**

■ **а. Андрэй Сідаровіч MIC**, *Расіца*



Менавіта яна як адзін з першых гарадоў на тэрыторыі сучаснай Беларусі атрымала Магдэбургскае права (у 1391 няпоўнае, а ў 1444 поўнае), мела вялікую колькасць каталіцкіх і праваслаўных храмаў і заслужыла права на хрысціянскі герб.

У савецкія часы ўлада як агню баялася ўсяго, што нагадвала пра хрысціянскую веру. Таму ў 1988 г. падчас святкавання юбілею Гродна на выдадзеных значках старажытны герб пазбавілі сваёй адметнасці – залатога крыжа між рагамі аленя. Канешне, алень быў адной з найбольш распаўсюджаных жывёлаў у навакольных лясах. На аленя сапраўды палявалі часта. На гэта сведчаць археалагічныя даследаванні: больш за дваццаць пяць працэнтаў знойдзеных костак дзікіх жывёл – гэта менавіта косткі аленяў. Але не аленя ўладары Вялікага Княства, а пазней і Рэчы Паспалітай абралі апекуном горада. І менавіта крыж тлумачыць, які святы здаўна апякуецца месцічамі.

Алень с залатым крыжам быў вядомым сімвалам святога Губерта. Губерт у маладосці – гэта чалавек дастаткова павярхоўнай веры і не найлепшы прыклад святога жыцця. Аматар палявання, ён ведаў усе пушчы і лясы ў Ардэнах.

Але аднойчы ў выніку неймавернай буры Губерт згубіўся ў лесе. У адчаі памаліўся і ўбачыў незвычайную з'яву: аленя з залатым крыжам паміж рагамі, які загадаў яму ісці да мясцовага біскупа. Гэтае перажыванне было настолькі шакавальным, што Губерт распачынае глыбокае духоўнае жыццё: прымае святарства, а пазней і біскупства. Ён стаў нястомным місіянерам, які адведвае ў якасці пастыра паганскія вёскі і мястэчкі.

Губерт найбольш вядомы як апякун паляўнічых і леснікоў. Але перадусім яго называюць апекуном духоўнай перамены чалавека.

На гербе алень пераскоквае праз нешта, што нагадвае агароджу. Гэта сапраўды сімвал добрай умацаванасці горада. Сама назва "Гродна", а раней "Гародня", "Гарадзень" аднакаранёвая са словамі "гарадзіць", "абгароджваць".

# Агульнабеларуская сустрэча моладзі пройдзе ў Гродне

Уадпаведнасці з пастырскай праграмай Каталіцкага Касцёла ў Беларусі на 2018 год, якая прысвечана моладзі як надзеі Касцёла і грамадства, з 29 красавіка па 1 мая ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (мікрараён Дзевятоўка) адбудзецца агульнабеларуская сустрэча моладзі.

**Тэма сустрэчы — *«Не бойся, Марыя, бо знайшла ты ласку ў Пана»*** (Лк 1, 30).

*Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч*
*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі*
*Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі*






# Міхал, Габрыэль, Рафал. Што вы ведаеце пра анёлаў?

**"Каталіцкі Веснік" падрыхтаваў пытанні для чарговага тэста пра анёлаў. Што вы ведаеце пра іх? Праверце свае веды!**

**1** Што азначае слова анёл?



**А.** Змагар
**Б.** Пасланец
**В.** Суцяшыцель

**2** Хто з анёлаў абвясціў Марыі, што Яна стане Маці Збаўцы?



**А.** Арханёл Рафал
**Б.** Арханёл Габрыэль
**В.** Міхал Арханёл

**3** Дзе на старонках Святога Пісання згадваецца арханёл Рафал?



**А.** У старазапаветнай кнізе Тобія
**Б.** У Евангеллі паводле Марка
**В.** У Евангеллі паводле Мацвея

**4** Ён прадказаў нараджэнне святога Яна Хрысціцеля:



**А.** Арханёл Рафал
**Б.** Арханёл Габрыэль
**В.** Міхал Арханёл

**5** У Бібліі гэты анёл згадваецца ў Апакаліпсісе:



**А.** Арханёл Рафал
**Б.** Арханёл Габрыэль
**В.** Міхал Арханёл

**6** Імя якога анёла азначае: "Хто як Бог!"?



**А.** Міхала Арханёла
**Б.** Арханёла Рафала
**В.** Арханёла Габрыэля

**7** Якую лічбу патрэбна ўставіць замест шматкроп'я? Традыцыя Касцёла гаворыць, што існуе ... анёльскіх хораў:



**А.** 12
**Б.** 9
**В.** 30

**8** Якой назвы анёльскіх хораў не існуе?



**А.** Спеўныя
**Б.** Панаванні
**В.** Серафімы

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

Правільныя адказы глядзіце на старонцы 12

# Каляндар на люты



**2 лютага – свята Ахвяравання Пана (Грамніцы)**

У гэты дзень падчас Літургіі ўзгадваецца прынясенне Дзіцятка Езуса ў святыню для выканання абраду ахвяравання. Іншая назва – свята Маці Божай Грамнічнай. Грамнічная свечка таксама сімвалізуе Марыю – пакорную слугу Пана Бога, у душы Якой гарэла святло веры, надзеі і любові. Свечкі, што асвячаюць у гэты дзень, называюць "грамнічнымі", бо іх запальваюць у час навальніцаў, каб апека Маці Божай выратавала ад небяспекі стыхіі. Запаленую грамнічную свечку таксама даюць у рукі чалавеку пры адыходзе з гэтага свету, каб Найсвяцейшая Панна Марыя прывяла яго душу ў неба.

**3 лютага – успамін святога Блажэя, біскупа і мучаніка**

Святы Блажэй з'яўляецца апекуном пры хваробах горла. Адна з легендаў гаворыць, як аднойчы маленькі хлопчык падавіўся косткаю, што засела ў горле і стала прычынаю моцнага ацёку. Хлопчыку пагражала ўдушэнне. Тады біскуп са спачуваннем дакрануўся да шыі хлопчыка і зрабіў над ім знак крыжа. І раптам хлопчык пачаў роўна дыхаць, ацёк зменшыўся, а потым зусім знік. Вестка пра незвычайнага лекара хутка разляцелася па ваколіцы, што было вельмі нязручна для рымскіх уладаў. Адразу просьбамі, а потым катаваннем яны імкнуліся прымусіць біскупа адмовіцца ад Хрыста, але святы Блажэй не адмовіўся. Ён быў забіты мечам прыкладна ў 316 годзе. У дзень яго літургічнага ўспаміну асвячаюцца свечкі, якія называюцца "блажэйкамі". У час бласлаўлення святар, трымаючы ў руках дзве скрыжаваныя свечкі, моліцца: "Няхай Бог праз заступніцтва святога мучаніка Блажэя вызваліць цябе ад усякіх хваробаў горла і ад усякага зла".

**5 лютага – успамін святой Агаты**

Яна была дзяўчынай, якая, прагнучы захаваць чыстасць і вернасць Хрысту, прыняла мучаніцкую смерць у Катаніі, на Сіцыліі, каля 250 г. Праз год пасля яе смерці адбылося выбяржэнне вулкана Этна. Патокі лавы пагражалі знішчыць увесь горад, але яны спыніліся, калі жыхары Сіцыліі, просячы ў малітвах заступніцтва Агаты, паклалі на іх шляху вэлюм, што належаў святой.

Дзякуючы гэтаму цуду Агату пачалі лічыць апякункай, якая ахоўвае ад пажараў. У дзень успаміну св. Агаты бласлаўляюцца хлеб і вада. У малітве асвячэння прыпамінаецца, што св. Агата з'яўляецца асаблівай заступніцай і апякункаю ў небяспецы пажару.

**11 лютага – Сусветны дзень хворага**

13 мая 1992 года яго ўстанавіў святы Ян Павел ІІ. У гэты дзень вернікі прыходзяць у святыню, каб атрымаць сакрамант намашчэння хворых. Гэта адзін з сямі сакрамантаў, дадзеных хрысціянам, каб змаглі адчуць гаючую дапамогу Пана Бога, Яго асвячальную ласку падчас хваробы. Спачатку вернікі прыходзяць на сакрамант споведзі, каб ачысціць сваю душу, а потым святар намашчае іх святым алеем, ускладае рукі і моліцца аб ласцы здароўя душы і цела.

**14 лютага – Папялец. Пачатак Вялікага Посту**

Папяльцовая Серада распачынае перыяд Вялікага посту, які доўжыцца 40 дзён. Традыцыйна ў гэты дзень адбываецца абрад пасыпання галоў попелам. Сам звычай пасыпання галоў попелам на знак жалю і пакуты вядомы ў многіх культурах і традыцыях. Мы знаходзім яго як у Старажытным Егіпце і Старажытнай Грэцыі, так і ў індзейскіх плямёнаў. Таксама, вядома, і на старонках Бібліі, напрыклад, у Кнізе Ёны або Ёэля. Літургічная адаптацыя гэтага звычаю паяўляецца, аднак, толькі ў VIII стагоддзі. Першыя сведчанні пра асвячэнне попелу вядомыя з X стагоддзя. У наступным стагоддзі Папа Урбан II увёў гэты звычай як абавязковы ва ўсім Касцёле. Таксама з таго часу паходзіць традыцыя атрымання попелу да пасыпаня галоў вернікаў з пальмаў, пасвечаных у Пальмавую Нядзелю папярэдняга года.

## На люты прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**1 лютага** – **гадавіну біскупскага пасвячэння** адзначае **біскуп Юзаф Станеўскі**, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі;

**10 лютага** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*;

**15 лютага** – **дзень нараджэння** адзначае **біскуп Юрый Касабуцкі**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі;

**17 лютага** – **імяніны** адзначае **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*;

**18 лютага** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы)*;

**22 лютага** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Кшыштаф Мянкіна** *(Мёры)*;

**26 лютага** – **імяніны** адзначаюць **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч**, **біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB** – дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі;

**28 лютага** – **імяніны** адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***

# Святы, якога не спыніла эпілепсія

## Бласлаўлёны Папа Пій IX (1792-1878), 7 лютага



**Швейцарская папская гвардыя, у якую хацеў уступіць малады Ян Марыя Мастаі Ферэцці, не зрабіла для хлопца выключэння і не прыняла ў свае рады. Такім чынам, магчыма, страціла аднаго са сваіх найбольш вядомых у будучыні афіцэраў.**

**а. Андрэй Сідаровіч МІС**, *Расіца*

Касцёл для разумнага, выхаванага, з заможнага роду юнака выключэнне зрабіў і, прымаючы ў семінарыю, атрымаў аднаго з найбольш вядомых і творчых папаў XIX ст.

Цяжка асуджаць кіраўнікоў швейцарскай гвардыі, бо хлопец хварэў не на грып і мучыўся не ад звычайнай прастуды. У яго неаднаразова здараліся прыпадкі эпілепсіі. Цяжка ўявіць салдата ці афіцэра на службе, які ў кожны момант можа страціць над сабой кантроль. Для таго, каб Ян Марыя паступіў у семінарыю і атрымаў пасвячэнне, была патрэбная дыспенса (дазвол) самога Папы. Можа, у гэтым выпадку дапамаглі сямейныя сувязі: дзядзька-біскуп і дзядзька-прэлат у базіліцы св. Пятра. Як бы ні было, гэтая пратэкцыя дала Касцёлу будучага папу і святога.

Часы кіравання Касцёлам для новаабранага Папы Пія IX былі звышскладанымі. У рэвалюцыйных падзеях стваралася Італьянская дзяржава. Касцёл страціў свае зямельныя ўладанні, яго зямная ўлада абмяжоўвалася толькі Ватыканам. На знак сваёй нязгоды з рэвалюцыйнымі норавамі і гвалтам пасля забойства прэм'ера Папы Пій IX вырашыў на нейкі час пакінуць Рым і Ватыкан. У звычайнай чорнай сутане ён пакрыёма выехаў у Неапаль.

Зямныя клопаты і вірлівы час не перашкодзілі Пію IX быць добрым пастырам і для духавенства, і для сваіх авечак. Сведкі кажуць, што для ўсіх ён быў вельмі простым суразмоўцам і выдавалася, што з кожным чалавекам гатовы быў пасябраваць. Папу любілі католікі і вельмі паважалі людзі іншых перакананняў. Толькі ў справах веры Пій IX быў нязломны і непераканальны.

Гэта менавіта Папа Пій IX абвясціў у 1854 г. догму пра Беззаганнае Зачацце Найсвяцейшай Марыі Панны. Існуюць пацверджаныя сведчанні, што ў моманце чытання булы Папа вельмі ўзрушыўся і нават праслязіўся. А тыя, хто быў на ўрачыстасці, бачылі слуп святла над Папам падчас абвяшчэння дакумента. Даследаванні паказалі, што ў снежні, калі адбывалася гэтая падзея, ніякага святла там быць не магло. Пій IX казаў, што ў той момант Бог даў яму перажыць пачуццё неймавернай духоўнай чысціні Святой Багародзіцы.

На нашай зямлі таксама застаўся след служэння Папы Пія IX. Менавіта ён, дбаючы пра католікаў ва ўсім свеце, беатыфікаваў мучаніка Андрэя Баболю і кананізаваў Язафата Кунцэвіча.

# Якога веравызнання Ваша сям'я?

**У сённяшнім нумары вернікі адказалі на пытанне: "Якога веравызнання Ваша сям'я?"**



**Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі:**

- сям'я каталіцкага веравызнання – 168 адказаў;
- каталіцка-праваслаўная сям'я – 114 адказаў;
- каталіцка-пратэстанцкая сям'я – 4 адказы.

**Усяго – 286 адказаў.**

А якога веравызнання Ваша сям'я?

*Падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***



# Пытанне святару: Касцёл і пахаванне самагубцаў

*"Хвала Хрысту! Як Касцёл ставіцца да пахавання самагубцаў?"*
*Марына*

**На пытанне адказвае айцец Аляксандр Махнач SP, піяр з Ліды:**

– Гэтая тэма заўсёды ўзбуджае вялікія эмоцыі, асабліва ў тых, у чыёй сям'і падобнае здарылася.

Паспрабуем разабрацца. Справа пахавання самагубцаў непасрэдна не абмяркоўваецца ў Кодэксе кананічнага права, а толькі ўзгадваюцца тры групы асобаў, якіх нельга хаваць па-каталіцку (кан. 1184 § 1.3). Наколькі мне вядома, Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі не выдавала на гэту тэму нейкіх канкрэтных інструкцый. Таму, адказваючы на дадзенае пытанне, хачу звярнуцца да *"Літургічна-душпастырскай інструкцыі Польскага Епіскапату аб пахаванні і малітвах за памерлых" ад 5 мая 1978 г.*, якая дапаможа нам прасвятліць пэўныя няясныя моманты для каталіцкага верніка, які шукае адказу на пытанне.

Гэтая інструкцыя ў 13 пункце падае: *"Паводле распаўсюджанага меркавання псіхіятраў, самагубцы з поўнай свядомасцю не адказваюць за свой чын. Таму не павінна ім адмаўляцца ў каталіцкім пахаванні, калі падчас жыцця яны выказвалі сваю прывязанасць да веры і Касцёла. Удзельнікам такога пахавання трэба растлумачыць гэтую сітуацыю"*.

Дадзенае прадпісанне датычыць тых, хто перад тым, як пазбавіць сябе жыцця, належаў да супольнасці вернікаў-практыкаў. Сам факт замаху на жыццё мы ўспрымаем як наступствы нейкага паталагічнага стану. У сувязі з гэтым мы не толькі не адмаўляем у каталіцкім пахаванні, але і не робім ніякіх адрозненняў у цэлебрацыі самой пахавальнай цырымоніі. Канешне, мы карыстаемся такой магчымасцю, каб нагадаць вернікам, што сам факт пазбаўлення жыцця асобай, у пахаванні якой удзельнічаем, стаў вынікам недахопу поўнай свядомасці або псіхічнай хваробы.

Далей у інструкцыі чытаем, што: *"самагубца, які перад пазбаўленнем жыцця паводзіў сябе разбэшчана, заслугоўвае стаўлення як да яўнага, публічнага грэшніка"*.

У такой сітуацыі можам казаць пра адмову ў каталіцкім пахаванні або прынамсі ў абмежаванні ўрачыстай цэлебрацыі самой цырымоніі. Мы чынім гэта не з прычыны таго, што дадзеная асоба здзейсніла самагубства, але таму, што жыццё гэтай асобы супярэчыла хрысціянскаму духу і аж да самай смерці трывала ў аддаленасці ад Бога і Касцёла. Таму вельмі важна, каб у сітуацыях з самагубцамі святары кіраваліся Кодэксам кананічнага права (кан. 1184 §1.3), які ўзгадвае толькі тры групы асобаў, каторых нельга хаваць па-каталіцку, і праверылі, ці чалавек, які пазбавіў сябе жыцця, не быў:

1) усім вядомым апастатам (адступнікам ад веры), ерэтыкам, схізматыкам;

2) асобай, якая выбрала спаленне свайго цела з прычынаў, неадпаведных хрысціянскай веры;

3) яўным (публічным) грэшнікам.

Каталіцкае пахаванне такой асобы ідэнтычнае пахаванню кожнага іншага каталіка-практыка, і таму было б абразлівым для супольнасці вернікаў мясцовага Касцёла. Вельмі часта разбэшчанасць, якая выяўляецца яшчэ пры жыцці самагубцы, мае свае вытокі ў алкагалізме, а з гэтым часта ідзе ў пары адсутнасць рэлігійнага, сакрамантальнага жыцця.

Душпастырам трэба мець на ўвазе, што самагубства, якое з'яўляецца наступствам псіхічнай хваробы, як і алкагалізм, каторы таксама ёсць хваробай, не павінна быць толькі адзіным матывам магчымага адказу ў каталіцкім пахаванні.

Падсумоўваючы нашае разважанне, трэба сцвердзіць, што сам факт пазбаўлення сябе жыцця, не мае істотнага ўплыву на рашэнне душпастыра ў адмаўленні ў каталіцкім пахаванні. Важным з'яўляецца перадусім тое, які стыль жыцця вёў гэты чалавек перад смерцю: рэлігійны ці не?

# Ці можна маліцца за жывёлу?




*"Дарагая рэдакцыя! У мяне пытанне пра сабак. Зараз іх садзяць за стол, а на могілках, дзе пахаваныя свойскія жывёлы, людзі ставяць агароджы, помнікі і нават крыжы. А многія за іх і моляцца. Калі ласка, растлумачце вернікам, як гэта трэба рабіць правільна? Што можна, а што нельга?"*
*Віталь Леановіч*

**На пытанне адказвае ксёндз Віктар Місевіч, канцлер Віцебскай дыцэзіі:**

– Мы ведаем, што чалавек – вянец Божага стварэння, а навакольны свет – гэта падарунак ад Бога, якім мы павінны разумна карыстацца, асвойваць яго і ў ім валадарыць. Канешне, такога кштату дзейнасць азначае і адказнасць. Нездарма Папа Францішак у сваёй энцыкліцы "Laudato si'" нагадвае нам пра важнасць ашчаднага і разумнага карыстання дарамі прыроды. Немагчыма сабе ўявіць паўнавартаснае развіццё чалавека як асобы, ды і ўсяго грамадства без прысутнасці жывёлаў. Некаторыя з іх выкарыстоўваюцца для харчавання, каб забяспечыць арганізм чалавека патрэбнымі карыснымі элементамі, некаторыя прыдатныя для вытворчасці вопраткі, а іншыя проста радуюць сэрца. Я асабіста вельмі люблю жывёлаў, таму што з дзяцінства рос у сельскім асяроддзі. Аднак як святар і проста вернік дакладна разумею тое месца, якое займаюць жывёлы ў свеце чалавека, і тыя межы, што для іх існуюць.

Асноўная цяжкасць пастаўленага пытання ляжыць у духоўнай сферы. Як нам ставіцца да смерці жывёлы? Ці можна за іх маліцца? Што з іх месцам пахавання?

Не дзіва, што гаспадары прывязваюцца да жывёлаў, а жывёлы да гаспадароў. І разлука з хатнімі гадаванцамі, ды і проста з сельскагаспадарчай жывёлай можа быць прычынай суму і болю. Смерць, прыйшоўшы ў гэты свет праз віну чалавека, закранула, на жаль, і прыроду. Аднак мы павінны сабе ясна сказаць, што ніводная жывёла не мае такой душы, як чалавек. Толькі чалавек створаны на Божы вобраз і Божае падабенства. Таму мы не можам маліцца за жывёлу, як за чалавека. Жывёла не з'яўляецца асобай, а чалавек з'яўляецца.

Безумоўна, хрысціянская традыцыя ведае малітвы, у якіх успамінаюцца прырода і жывёльны свет, але яны, як правіла, маюць свой асаблівы кантэкст, напрыклад, з нагоды сельскагаспадарчых прац, захавання ўраджаю і гаспадаркі, бласлаўлення працы ў полі і г.д... Хрысціянін не павінен маліцца за памерлую жывёлу так, як мы молімся за памерлых людзей. Такая малітва бессэнсоўная і непатрэбная. Што датычыцца месцаў пахавання жывёлаў, то тут трэба кіравацца свецкімі нормамі і законамі. Калі спантанныя жывёльныя могілкі забароненыя свецкім правам, то трэба пазбягаць такім чынам хаваць сваіх гадаванцаў.

Ці можна ставіць нейкія помнікі ці памятныя знакі? А чаму не? Калі такое пахаванне не парушае свецкіх нормаў, дазволенае законам, то любы ўладальнік можа нейкім чынам адзначыць тое месца, дзе пахаваны яго любімец. З адной важнай заўвагай. На такіх знаках і помніках не павінна быць ніякіх хрысціянскіх сімвалаў. Хрысціянскія сімвалы дарэчы толькі там, дзе гаворка ідзе пра хрысціянаў – тых, хто ахрышчаны ў імя Святой Тройцы і спадзяецца на збаўленне ў Хрысце Езусе.





## Віншуем біскупа Алега Буткевіча!

*Ваша Эксцэленцыя!*

*Рэдакцыя «Каталіцкага Весніка» разам з чытачамі і карыстальнікамі партала Catholicnews.by шчыра віншуе Вас, паважаны біскуп Алег, з гадавінай біскупскага пасвячэння (18 студзеня)!*

*З гэтай нагоды хочам скласці Вам найлепшыя пажаданні: шмат Божых ласкаў, здароўя, патрэбных сіл у выкананні пастырскага і біскупскага служэння, дароў мудрасці, розуму, мужнасці.*

*Няхай Той, хто з'яўляецца Добрым Пастырам вядзе Вас праз цяжкасці жыцця і біскупскай паслугі, удзяляючы патрэбныя ласкі для выканання даверанай місіі.*

*Няхай Марыя, Маці Касцёла разам са святымі і блаславёнымі сведкамі веры будуць заступнікамі перад Айцом у небе ва ўсіх Вашых справах і ўсёй дыяцэзіяльнай сям'і.*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: вернікі з Мосара**, **Лапушынская Р.В.** *(Коўзаны)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Міхаіл Суднік** *(Струкі)*, **Руткоўская І.К.** *(Радзюкі)*, **Феакцістава Л.М.** *(Камарова)*, **Антаніна Дарашкевіч** *(Янковічы)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Галіна Драгун** *(Юркаўшчына)*, **Валянціна Віткоўская** *(Лынтупы)*, **Ганна Дарашкевіч** *(Янковічы)*, **Рамуальда Суднік** *(Струкі)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Легіён Марыі** *(Маладзечна)*, **ружанцовыя колы Маці Божай Будслаўскай і св. Яна Паўла ІІ** *(Маладзечна)*, **парафіяне з Глыбокага**, **Лаўрыновіч Чэслава** *(Мосар)*, **Данута Голубева** *(Бабінавічы)*, **Рамуальда Асетрова** *(Радзюкі)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Чэслаў Салодкі** *(Дзеркаўшчына)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Даната Рудак** *(Янкова)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Сафія Чарнецкая** *(Язні)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Соф'я Машара** *(Шаркўшчына)*, **Марыя Харнікава** *(Навасады)*, **Таццяна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Галіна Вайцяховіч** *(Смаргонь)*, **Іван Кашчыц** *(Ашмяны)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Валянціна Курто** *(Луцк-Казлоўскі)*, **Ірына Essential Кончыц** *(Гомель)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Эма Бугаева** *(Лынтупы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*31 студзеня – Дзень нараджэння ў **ксяндза Юрыя Жаўняровіча**.*

*Шаноўны ксёндз Юрый!*

*З нагоды Дня Вашага нараджэння прыміце букет самых шчырых і найлепшых пажаданняў: няхай кожны дзень будзе шчаслівы і блаславёны, сэрца хай напаўняюць радасць, любоў і супакой, побач няхай заўжды будуць шчырыя вернікі і добразычлівыя людзі! Няхай Святы Дух адорвае Вас, Маці Божая хай атуляе апекай, душпастырская паслуга прыносіць Вам радасць, задавальненне і плён, а агеньчык аптымізму ніколі не гасне ў Вашым сэрцы!*

***Няхай для Вас сонца смяецца,***
***Няхай у Вас усё ўдаецца!***
***Жадаем Вам шчасця, здароўя без лекаў,***
***Дабра і спакою, і доўгага веку!***

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Узвышэння Святога Крыжа (в. Ахрэмаўцы Браслаўскага р-на)***



## Хвала Хрысту!

*Праз газету хачу ад усяго сэрца павіншаваць **ксяндза Адама Кваткоўскага** з імянінамі і Днём нараджэння (24-25 снежня).*

*Гэта вельмі добрай душы чалавек, добрасумленны і шчыры. Ксёндз Адам шчодра дзеліцца цяплом і святлом Божай любові з вернікамі.*

*Я ўдзячная Богу за ласку сустрэчы з такім добразычлівым і шчырым чалавекам.*

*Жадаю ксяндзу Адаму моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці ў святарскай працы, шчодрых дароў Духа Святога і апекі Маці Божай!*

## Шаноўны ксёндз Уладзімір Шымковіч!

*Віншуем Вас са святам Божага Нараджэння і новым 2018-м годам!*

*Жадаем плёну ў Вашай пастырскай працы, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця. Няхай добры Бог дапамагае Вам у Вашай цяжкай працы, Маці Божая хай апякуецца Вамі! Мы любім Вас і паважаем!*

***Вернікі капліцы Святых Пятра і Паўла, в. Казлоўшчына***



## Хвала Хрысту!

*Сардэчна віншуем **ксяндза Марата Казлоўскага** з Божым Нараджэннем і Новым годам!*

*Няхай увесь 2018 год будзе напоўнены духоўнай радасцю і Хрыстовым супакоем! Шчасця, моцнага здароўя, невычэрпнай энергіі і натхнення Святога Духа!*

***Часлава Лаўрыновіч, Яніна Шыкуць (в. Мосар)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Віншуем нашых землякоў – **ксяндза Уладзіміра Шымковіча**, які працуе ў Дуброўне, і **ксяндза Антона Лагунёнка**, які працуе ў Канстанцінаве (Глыбоцкага раёна) – з Божым Нараджэннем! Жадаем усіх дароў Духа Святога, апекі Маці Божай, плёну ў працы, моцнага здароўя і заўсёды добрага настрою!*

***Вернікі касцёла Святога Апостала Андрэя ў Лынтупах (Пастаўскі р-н)***

**Адказы на тэст са стар. 9:** 1 – Б; 2 – Б; 3 – А; 4 – Б; 5 – В; 6 – А; 7 – Б; 8 – А.

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Сардэчна віншуем пробашча парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску **ксяндза Паўла Кнурэка** з Днём нараджэння, які прыпадае на 7 студзеня! Жадаем узрастаць у шматлікіх цнотах, атрыманых з Божай ласкі; жадаем, каб ставала сіл і мудрасці ў цяжкія хвіліны і каб збываліся ўсе планы і задумы!*

*Шчыра дзякуем за вялікую душпастырскую працу, якая прынесла багаты плён для кожнага з нас!*

***З павагай, любоўю і малітвай, вернікі парафіі Святога Андрэя Апостала ў Лынтупах***

## Дзякуем і віншуем!

*Дзякуем **ксяндзу Генадзю Ляўкову** за падрыхтоўку і арганізацыю святкавання Божага Нараджэння. Ад усяго сэрца віншуем са святам Божага Нараджэння і новым 2018-м годам!*

*Шчыра дзякуем Вам, дарагі ксёндз Генадзь, што не шкадуючы сілы выконваеце волю Хрыста. Дасылаем Вам найлепшыя пажаданні: цярплівасці ў працы на нялёгкай святарскай ніве, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця. Будзьце заўсёды з намі!*

*Няхай добры Бог блаславіць Вашых бацькоў на доўгія гады жыцця!*

***Удзячныя вернікі з Друсвят, Браслаўскі р-н***

## Хвала Хрысту!

*25 студзеня ў **сястры Таццяны Данч** – імяніны. Шчыра віншуем яе з гэтай нагоды! Дзякуем Пану Богу, што мы мелі шчасце працаглы час маліцца разам. Спевы сястры Таццяны ўпрыгожвалі кожную святую Імшу, урачыстыя шлюбы, хрост, Першую Камунію нашых дзетак, пахаванні парафіян.*

*Дзякуючы старраннай працы сястры Таццяны створаны суполкі дзяцей і моладзі, якія спяваюць падчас набажэнстваў.*

*Зараз сястра працуе ў Варапаеве. Мы вельмі сумуем без яе, молімся за яе і просім Пана Бога і Маці Божую Глыбоцкую Падхорную пра найхутчэйшую сустрэчу ў нашым касцёле.*

*Жадаем сястры Таццяне здароўя, шчодрых дароў Духа Святога, апекі нябеснай Заступніцы і святой Цэцыліі, Божай дапамогі ва ўсіх справах, натхнення для далейшага плённага служэння Хрысту і Святому Касцёлу!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!

*Сардэчна віншуем **сястру Таццяну Данч**, якая працавала арганісткай у касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім, з імянінамі! Жадаем Вам, сястра Таццяна, моцнага здароўя, сілы, цярпення. Няхай добры Бог падтрымлівае Вас у жыцці, а Маці Божая хай атуляе сваёй апекай!*

*Дзякуем Вам за Вашу працу, за мілагучны голас, які радаваў нашы сэрцы. Жадаем Вам аптымізму, плёну і радасці ў штодзённых справах, у працы ў новай парафіі. Мы сваёй малітвай будзем падтрымліваць Вас. Памятаем Вас, любім і спадзёмся на сустрэчу з Вамі ў нашым касцёле!*

***З павагай, вернікі Глыбоцкай парафіі***



# Як касцёл ставіцца да псіхатэрапіі і псіхатэрапеўтаў?

*"Скажыце, калі ласка, як касцёл ставіцца да псіхатэрапіі і псіхатэрапеўтаў. Ці можа вернік-католік да іх звяртацца?"*
*Юрый*

**На пытанне адказвае айцец Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

— Паважаны Юрый! Дзякуй за пытанне.

Каталіцкі Касцёл лічыць, што псіхалогія і яе даследаванні дапамагаюць зразумець глыбіню чалавечай асобы. У некалькіх пунктах Пастырскай канстытуцыі пра Касцёл у сучасным свеце ідзе гаворка пра дабро, якое можа ўчыніць псіхалогія сучаснаму чалавеку, а пункт 62 згаданай канстытуцыі падкрэслівае: "У пастырстве трэба прызнаваць і выкарыстоўваць у дастатковай ступені не толькі тэалагічныя прынцыпы, але і дасягненні свецкіх навук, асабліва псіхалогіі і сацыялогіі, каб таксама і вернікаў весці да больш чыстага і сталага жыцця веры". Такім чынам, Касцёл мае глыбокую павагу, пазітыўна ацэньвае і блаславўляе высакародную місію псіхолагаў і псіхіятраў і лічыць, што даследаванне псіхічных з'яў, хваробаў ці тэрапія з'яўляюцца сродкам дапамогі чалавечай асобе, а таксама праявай любові да яе.



Хрысціянская антрапалогія бачыць усяго чалавека ды ўсе шматлікія вымярэнні яго жыцця. Паколькі мэтаю псіхалагічнай тэрапіі з'яўляецца ўзмацненне чалавечай асобы, то вернік можа звяртацца па дапамогу да псіхолагаў ці псіхатэрапеўтаў. Можа ўзнікнуць пытанне, ці варта верніку карыстацца дапамогай любога псіхолага? Трэба сказаць, што кожны тэрапеўт, незалежна ад вызнаванай ім веры ды светапогляду, пакліканы шанаваць сваіх пацыентаў. Выбіраючы чалавека, ад якога чакаем дапамогі, у першую чаргу неабходна звяртаць увагу на прафесійныя якасці і адносіны да розных вымярэнняў жыцця чалавека. Аднак калі псіхолаг сам імкнецца да з'яднання з Богам, то ён можа дапамагчы таксама і ў сферы духоўнай, хоць ніколі не заменіць, напрыклад, святара ў сакраманце споведзі.

Папа Францішак прызнаўся, што ва ўзросце 42 гадоў на працягу шасці месяцаў карыстаўся дапамогай псіхатэрапеўта – жанчыны, якая не была хрысціянкай, а вызнавала юдаізм. Святы Айцец сцвярджае, што менавіта псіхатэрапія вельмі яму дапамагла ў той перыяд жыцця, калі патрабаваў кансультацыі, каб высветліць некаторыя акалічнасці. Трэба таксама дадаць, што цяперашні Папа стаў правінцыялам ордэна езуітаў у вельмі складаны час для Аргенціны.

Падобна да медыцыны, таксама і псіхалогія можа паспрыяць больш поўнаму ды лепшаму жыццю чалавека, які не пазбаўлены розных складаных перажыванняў ці праблем. Добры псіхолаг можа стаць супрацоўнікам Самога Бога ў працэсе ўзмацнення чалавечай асобы.

## Што рабіць, калі працоўныя абавязкі супярэчаць навуцы Касцёла?



***"Я працую ў міжнароднай кампаніі, якая вырабляе прэпараты і медыцынскае абсталяванне, неабходнае для падтрымання здароўя жанчын. Інакш кажучы, усё тое, з чым яны сутыкаюцца ў радзільных дамах, жаночых кансультацыях і г. д. Паводле сваёй прафесійнай дзейнасці мне часам даводзіцца пісаць тэксты на тэму кантрацэпцыі, што забаронена Касцёлам. Ці з'яўляецца гэта грахом, бо гэта частка маёй працы, якой цяжка пазбегнуць?"***

**На пытанне адказвае ксёндз Алег Кудэрка:**

— "Пры наяўнасці ўнутрана няправеднага закона (...) ніколі нельга ні прыстасоўвацца да яго, ні ўдзельнічаць у фарміраванні грамадскай думкі, накіраванай на карысць такога закона, ні аказваць яму падтрымку галасаваннем" (Ян Павел II, Evangelium vitae 73).

Этычны кодэкс лекара абавязвае перад дзяржавай. Але калі які-небудзь аспект гэтага кодэксу супярэчыць Божаму закону, то ўрач-католік не абавязаны яго выконваць. Нярэдка працаўнікі якіх-небудзь пярэчанняў па меркаванях сумлення ў медыцыне спасылаюцца на абавязак лекара не навязваць свае рэлігійныя перакананні ў сферы лячэння. Але тут трэба заўважыць, што гэта зусім не супярэчыць праву лекара адмовіцца у рэцэпце на кантрацэптыў.

Кантрацэпцыя – не лячэнне. Гарманальныя прэпараты, якія прымяняюцца з тэрапеўтычнымі мэтамі, нават калі яны маюць пабочны кантрацэптыўны эфект, – гэта лячэнне, і яно ніяк не ідзе насуперак маральным перакананням католіка. Але калі тыя ж самыя прэпараты прапісваюць з адзінай мэтай – пазбегнуць зачацця, то гэта не адносіцца ані да дыягностыкі, ані да тэрапіі. Значыць, ні клятва Гіпакрата, ні этычны кодэкс не абавязваюць гінеколага іх прызначаць.

Трэба памятаць, што ніякія іншыя "непрафесійныя" матывы тут ні пры чым, паколькі разнастайныя навуковыя даследаванні даказваюць, што кантрацэптыўныя прэпараты не з'яўляюцца бясшкоднымі з медыцынскага пункту гледжання, а часам валодаюць і абартыўным дзеяннем. Варта адмовіцца ад супрацоўніцтва з любой фізічнай або юрыдычнай асобай, калі яна патрабуе ад яго дзеянняў, што супярэчаць этычным прынцыпам, прафесійнаму абавязку або закону.

Як лекар не можа прымушаць пацыента да немаральных учынкаў, так і пацыент не можа прымушаць лекара да таго ж.

*grodnensis.by*

# Как получить гражданство Ватикана? Как стать гражданином Ватикана? Может ли женщина быть гражданкой Ватикана?

**Население Государства Града Ватикан насчитывает менее тысячи человек, обладающих разным гражданством и национальностью, в основном это итальянцы. Проживание на его территории возможно в силу титула, должности или работы, и право на проживание предоставлено властями.**



Гражданство Ватикана отличается от гражданства других стран, поскольку оно всегда является приобретенным: право на гражданство не дается ни согласно ius sanguinis, то есть в силу рождения от гражданина Ватикана, ни согласно ius soli, то есть в силу рождения на территории Ватикана. Ватиканское гражданство основано исключительно на критерии проживания на территории Града Ватикан. Таким образом, ватиканскими гражданами не рождаются, а становятся. Это возможно в следующих случаях: во-первых, гражданами Ватикана являются кардиналы, проживающие на территории Ватикана или на территории Рима. Во-вторых, другие лица, проживающие на территории Града Ватикан в силу должности или титула, если проживание на данной территории предписано законом или есть разрешение Святейшего Отца или госсекретаря: такое разрешение дается сотрудникам Папского дома. Другим же лицам разрешение на проживание может предоставлять губернатор Града Ватикан.

Кроме того, право проживать на территории Ватикана может быть предоставлено лично Святейшим Отцом в особых случаях.

Гражданами Ватикана становятся также супруг или супруга, дети, родители, братья и сестры ватиканского гражданина, но лишь в том случае, если они проживают вместе с ним и имеют разрешение жить на территории Ватикана согласно государственным законам.

Если какое-либо из условий предоставления гражданства Ватикана прекращается, одновременно прекращается и гражданство. Отказ от него может быть спонтанным, например, отставка с должности или переезд, а также может быть предписан законом в случае увольнения или лишения должности (одновременно с потерей права на проживание в Ватикане).

При наличии ватиканского гражданства сохраняется и первоначальное гражданство. При этом следует учесть, что к гражданам Ватикана, проживающим на его территории, применяются законы, действующие на территории Италии (посредством Латеранских соглашений), в том числе и все законы, применимые к иностранцам: например, гражданин Ватикана обязан иметь итальянский вид на жительство, как и все его соотечественники-иностранцы, проживающие в Италии.

*Радио Ватикана*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**21 студзеня 2018 г.**

***Мк 1, 14-20***

Езус кажа: "Настаў час!" А мы ўжо жывём у гэтым новым часе, часе Божага Каралеўства.Трэба, каб мы пакінулі грэх. Гэта значыць, пакінулі ўсё, што бурыць і забівае любоў. Езус заклікае нас паверыць у Евангелле, паверыць у яго Слова. Яго Добрая навіна – гэта перадусім навука, скіраваная да кожнага з нас, каб мы разумелі, што Бог для нас зрабіў і што падрыхтаваў, каб дарога любові была дарогай перамогі. Гэта тлумачэнне сэнсу жыцця паводле любові. Спяшаймася неадкладна ў дарогу за Езусам!

*– Ці разумею, што кожны дзень майго жыцця – гэта час, у якім я павінен жыць па законе любові?*

*– Ці ведаю, што справа майго збаўлення адбываецца тут і зараз?*

*– Ці, ідучы на Імшу, усведамляю сабе, што ўдзельнічаю ў смерці і змёртвыхпаўстанні Хрыста?*

*– Ці шукаю на Імшы ўмацавання ў барацьбе з грэхам і з'яднання зараз свайго жыцця з Богам?*

*– Ці, разважаючы над Божым Словам, чытаю Яго як добрую навіну, скіраваную да мяне асабіста?*

*– Ці шукаю ў Бібліі новых аргументаў, каб жыць паводле закону любові?*

*– Ці шукаю там падтрымкі ў добрым і тлумачэння сваіх пытанняў?*

*– Ці разумею, што ісці за Езусам трэба сёння, бо ўжо час Божага Каралеўства?*

*– А можа, маруджу, чакаючы пенсіі, добрага настрою або іншых фальшывых прычын?*

*– Ці разумею, што кожны дзень мае сваю ласку і не варта яе марнаваць?*

*– Ці разумею, што час – гэта любоў, таму нельга траціць часу?*

**28 студзеня 2018 г.**

***Мк 1, 21-28***

Моц Езусавага навучання здзіўляла слухачоў. Была ў гэтым вучэнні ўпэўненасць і надзейнасць. Сапраўды, гэта было Слова жыцця і Слова Бога. Вучэнне, за якое Езус, а за Ім і шматлікія Яго вучні ахвяравалі сваё жыццё. Слова Праўды, што гучала з вуснаў Езуса, асаблівым чынам узбуджала агрэсію ў нячыстых духаў, і яны праяўлялі сваю прысутнасць у апантаных, спрабуючы перашкодзіць Езусу. Аднак Яго ўлада над імі была такой моцнай, што яны баяліся і ўцякалі.

*– Ці бачу я магутнасць Божага слова?*

*– Ці ўмею заўважыць Яго моц?*

*– Ці бачу розніцу паміж свецкім жыццём і жыццём паводле Евангелля, гледзячы на сваё жыццё і жыццё іншых?*

*– Ці памятаю здарэнні, калі для мяне асабіста або ў маім асяроддзі Божая навука праяўляла сваю моц?*

*– Ці бачыў я ў жыцці нечаканае Божае дзеянне?*

*– Ці бачыў я, як Хрыстова вучэнне хутка і мудра прыходзіла з адказам на мае пытанні і сумненні, з якімі я не мог справіцца?*

*– Ці заўважаў я, як у маім жыцці або ў жыцці іншых вернасць навуцы Хрыста прыносіла плён любові?*

*– Ці шукаў я людзей і супольнасць, якая вывучае і жыве Божым словам згодна з вучэннем Касцёла?*

*– Ці слухаю сам, ці чытаю і ці разважаю над Божым словам?*

*– Ці спрабаваў я прымяніць Яго ў сваім жыцці?*

**4 лютага 2018 г.**

***Мк 1, 29-39***

Місію і навуку Езуса пацвярджалі шматлікія знакі. Ён аздараўляў хворых, выганяў злых духаў. Аднак асноўным лічыў навучанне, бо прыйшоў, як Сам сведчыў, каб абвяшчаць добрую навіну – гэта значыць, Евангелле.

*– Ці бачу я знакі Божай прысутнасці ў свеце і ў маім жыцці?*

*– Ці задумваюся над тым, што бачу?*

*– Ці шукаю сведчанняў людзей, святых, навяртаных?*

*– Ці цікаўлюся знакамі, якія Бог пакінуў у свеце для ўмацавання маёй веры?*

*– Ці клапачуся пра сваё рэлігійнае развіццё?*

*– У якой фармацыйнай групе я ўдзельнічаю?*

*– Ці слухаю вучэнне Касцёла?*

*– Ці карыстаюся дапамогай духоўніка, спаведніка?*

*– Што сурёзнага я прачытаў апошнім часам?*

*– Ці веру я слову Хрыста?*

*– Ці спрабаваў я жыць згодна з Яго навукай?*

*– Можа, усе мае адгаворкі пра праблемы з верай грунтуюцца на звычайным гультайстве і недахопе даверу да Бога?*

**11 лютага 2018 г.**

***Мк 1, 40-45***

Езус злітаваўся з пракажонага і дакрануўся да яго. Гэты жэст быў для прысутных шакавальным. А Езус, Які мае моц і святасць, застаецца чыстым. Ён загадвае ачышчанаму выканаць напісанае ў Законе ў выпадку аздараўлення: пайсці паказацца святару. Асабліва папрасіў, каб нікому не расказваў пра здарэнне. Аздароўлены не паслухаў, і Езус не змог увайсці ў горад, каб не прынялі Яго як цудатворцу ці знахара. Бог, прысутны сярод людзей, фізічна дакранаўся да іх бяды.

*– Ці веру я ў Божую любоў і літасць да мяне?*

*– Ці заўсёды з даверам расказваю Богу на малітве пра свае болі і беды?*

*– Ці прашу Бога пра дапамогу?*

*– Ці не хаваю перад Богам свае слабасці?*

*– Ці веру, што Ён дастаткова магутны і святы, каб сустрэцца і справіцца з маёй брыдотай, грэхам і сорамам?*

*– Ці дазваляю, каб Бог дакрануўся да мяне?*

*– Ці дапускаю Яго да свайго цела, пачуццяў, думак?*

*– Ці адкрываюся перад Ім у спаведніцы?*

*– Ці захоўваю паслухмянасць Богу, калі пачынаю бачыць Яго справы ў сваім жыцці?*

*– Ці дазваляю, каб праз мяне Бог зрабіў больш, чым я ад Яго спадзяваўся?*

*– Ці не маю адносін з Богам "ад бяды да бяды"?*

*– Ці прыходжу да Яго, калі ў жыцці ўсё добра?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*Віцебск*

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл

# ПАЗНАВАЙКА



У сённяшняй "Пазнавайцы" гаворка пойдзе пра любоў да бліжніх.

## Злучы сняжынкі па парадку!

Калі ў правільным парадку злучыш усе сняжынкі, даведаешся, якія словы пра любоў да бліжніх гаворыць нам Езус.




Атрыманы адказ запішы: ______________________

______________________________________

## Як мы можам аказваць любоў бліжнім?

Перад табою два прыклады ад "Пазнавайкі", якія паказваюць,як можна праяўляць любоў да блізкіх людзей. Добра падумай і ў пустых званочках напішы, як яшчэ ты можаш аказваць любоў да бліжняга




## Хто яны – нашы бліжнія?

Хрыстос заклікае кожнага з нас любіць бліжняга. А хто такі бліжні даведаешся, калі расставіш стрэлкі са словамі ў патрэбным парадку




## Злучы аднолькавыя часткі!

Любоў – гэта ўзаемадапамога і падтрымка. Перад табою малюнкі, на якіх дзеці праяўляюць любоў да бліжніх. Твая задача знайсці аднолькавыя часткі малюнкаў і злучыць іх стрэлкамі.



## Даведайся, што найважнейшае?

Што найважнейшае ў любові да бліжняга, даведаешся, калі правільна злучыш усе схаваныя літары. Ніжэй запішы атрыманы адказ!



______________________________________

______________________________________

______________________________________

## Святы Ян Павел ІІ, Папа. Рубрыка «Пазнаём Святых».

**Ян Павел ІІ (Караль Юзэф Вайтыла)** нарадзіўся 18 мая 1920 года ў польскім горадзе Вадавіцы каля Кракава.

Маленькі Караль быў таленавітым і спартыўным хлопчыкам, якому падабалася гуляць у футбол ды катацца на лыжах. Ён браў актыўны ўдзел у працы школьнага тэатра, а таксама служыў міністрантам.

У дзяцінстве будучы Папа перажыў смерць самых блізкіх людзей – памерлі яго маці і брат, а ў 1941 годзе памёр яго бацька. Пасля заканчэння вайны Караль стаў святаром.

У 1978 годзе ўрачыста распачаўся пантыфікат Папы Яна Паўла ІІ. Ён быў першым Папам-неітальянцам, які заняў апостальскі пасад за апошнія 455 гадоў, а таксама наймаладзейшым Папам за апошнія 132 гады.

Ён ведаў 11 моў. Стаў першым Папам, які пачаў шукаць прымірэння з іншымі рэлігіямі. Ён запомніўся многім і як самы актыўны вандроўнік: наведаў 129 краін свету.

Шматлікія цуды адбываюцца праз заступніцтва святога Яна Паўла ІІ: невылечна хворыя людзі становяцца здаровымі, а тыя, хто не верыць, атрымліваюць дар веры.

У 2014 годзе Ян Павел ІІ быў абвешчаны святым.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Адновім храм разам!

## Мінкульт Беларусі пачаў збор грошай на аднаўленне касцёла ў Мсціславе

**Міністэрства культуры адкрыла дабрачынны рахунак на аднаўленне былога каталіцкага храма ў Мсціславе.**

У Мінкульце занепакоеныя станам унікальнага аб'екта спадчыны – касцёла, які ўваходзіць у склад гісторыка-культурнай каштоўнасці нацыянальнага значэння "Былы калегіум езуітаў" у Мсціславе. Так міністэрства адрэагавала на тое, што ў канцы снежня 2017 года развалілася частка сцяны касцёла.

– ***Будынак касцёла з'яўляецца ўпрыгожаннем Мсціслава. Аднак на працягу доўгага часу святыня не выкарыстоўвалася. У цяперашні час будынак знаходзіцца ў нездавальняючым, аварыйным стане. Для прыняцця ў самыя кароткія тэрміны неадкладных мер і правядзення супрацьаварыйных работ на аб'екце, а таксама ў сувязі з адсутнасцю неабходнага аб'ёму фінансавых сродкаў арганізаваны збор ахвяраванняў,*** – паведамілі 4 студзеня ў Мінкульце.

Фінансавы ўдзел у захаванасці гісторыка-культурнай каштоўнасці ўсіх зацікаўленых грамадзян дазволіць забяспечыць устойлівасць канструкцый касцёла на перыяд да распрацоўкі праектнай дакументацыі па рэстаўрацыі святыні.

Езуіцкі касцёл быў закладзены ў Мсціславе ў 1637 годзе ў стылі віленскага барока. Яго будаўніцтва завяршылі да канца стагоддзя. У 1747-1750 гадах касцёл рэканструявалі.

*katolik.life*

**Реквизиты благотворительного счета: BY73 BAPB 31352908100160000000, в РКЦ № 19 в г. Мстиславль филиала ОАО «Белагропромбанк – Могилевское областное управление» Код BAPBBY27458, УНП 790613221 (Пожертвование на восстановление бывшего костела в Мстиславле).**



**Касцёл Святога Міхаіла Арханёла і кляштар езуітаў**




**Касцёл пасля перабудовы ў царкву, пачатак XX ст.**

## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

**1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2*#**

**2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**

**3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**

**4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 451

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3100 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 17.01.2018 г. у 12.38

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь